**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства
«Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

# Са святам Вялікай Перамогі!

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

18 (578) 5 траўня 2011 года

Кошт свабодны.

Полацкі раён

# Заслужылі дастойную старасць

■ Станіслаў Раманчук.

**Як ні сумна, але пажылых грамадзян у нашым грамадстве прыбаўляецца і асабліва поўнасцю адзінокім бывае няпроста ў такім узросце дажываць свой век.**

Па- свойму падыйшлі да вырашэння гэтай праблемы ў Наваполацку, дзе такім старым людзям перадалі раней закрыты прафілакторый завода “Палімір” у маляўнічым месце на беразе Заходняй Дзвіны. Гаспадаром гэтага будынка стала гарбальніца і цалкам размясціла ў ім спецыяльнае аддзяленне сястрынскага догляду. Фактычна атрымаўся пасля рамонту сапраўдны пансіянат. Пры існуючых цяжкасцях з фінансаваннем такіх работ неабходную дапамогу аказалі больш 30 розных мясцовых прадпрыемстваў і арганізацый рознай формы ўласнасці. Летась справілі наваселлі першыя два паверхі, днямі здалі ў эксплуатацыю трэці, які таксама аснасцілі неабходнай мэбляй і сучасным абсталяваннем, а аддзяленне догляду старых вырасла да 70 месцаў. Практычна ўсе нумары ўжо занятыя, хоць пажылым, у большасці адзінокім пенсіянерам за догляд, медабслугоўванне і харчаванне прыходзіцца аддаць да 90 працэнтаў пенсіі. Аднак гэта гарантуе, што аб табе паклапоцяцца і будзе забяспечана спакойная старасць, як у цывілізаваных краінах. А вось тыя, у каго ёсць дзецi, за месяц знаходжання тут павінны заплаціць пад 900 тысяч рублёў у месяц.

Верхнядзвінскі раён

# Дрэва – забойца

■ Чэслаў Якубовіч

**Па нейкай злой іроніі лёсу напярэдадні светлага свята Уваскрэшэння Хрыстовага ў шэраг сем’яў нашых землякоў нечакана прыйшлі боль і смутак.**

Вось і ў Верхнядзвінскім раёне родныя і блізкія былі ў шоку ад весткі аб трагічнай гібелі ў росквіце гадоў майстра спорту міжнароднага класу Сяргея Лагуна. Яму напрыканцы мая споўнілася б толькі 23 гады, а перад гэтым маладым хлопец ужо дабіўся ў жыцці многага, з’яўляўся адным з вядучых цяжкаатлетаў зборнай Беларусі і рэальна прэтэндаваў на ўзнагароды летняй Алімпіяды-2012 у Лондане. Сярожа з маленства ва ўзросце 12 гадоў пераехаў у вучылішча алімпійскага рэзерву ў суседні Наваполацк, старанна трэніраваўся і неўзабаве стаў вядомым у свеце. У 2007 годзе ён стаў мацнейшым на планеце ў Празе сярод юніёраў, а потым праз два гады на наступных чэмпіянатах свету сярод дарослых двойчы заваёўваў медалі. Летась у Турцыі ў яго было “золата” у спаборніцтвах у рыўку, а ўвогуле пабачыў свет і перад ім адкрываліся спрыяльныя спартыўныя і жыццёвыя перспектывы. Жыццё, па-сутнасці, толькі пачыналася, але абарвалася ў кароткае імгненне. У той трагічны дзень раніцай іншамарка, на якой ехаў Лагун са сваім сябрам, на адной з гарадскіх вуліц не ўпісалася ў паварот і ўдарылася ў дрэва. Сяргей у аварыі загінуў, а ехаўшы з ім яшчэ адзін член зборнай Беларусі па цяжкай атлетыцы Яўген Жарнасек, атрымаў цяжкую траўму пазваночніка. У адзін момант беларускі спорт не далічыўся двух сваіх здольных і перспектыўных атлетаў.

Пастаўскі раён

# Прыемней жыць у чысціні

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам Паставы прыкметна папрыгажэлі і нават прызнаваліся лепшымі па добраўпарадкаванню ў Беларусі сярод малых гарадоў з насельніцтвам да 50 тысяч чалавек.**

Сёлета працу па навядзенню парадку на зямлі сваіх продкаў вырашылі распаўсюдзіць паўсюдна і на працягу мая ў раёне пачаў праводзіцца месячнік чысціні. А першымі, не чакаючы адпаведных указанняў ад начальства, такую работу ўжо правялі ў сябе жыхары прыгараднай вёскі Ліпнікі. Як толькі растаяў снег, усе вяскоўцы нават пажылога ўзросту дружна адгукнуліся на заклік сваёй старэйшыны вёскі Аліцыі Трафімовіч правесці спецыяльны суботнік. Такім чынам добраахвотна выходзяць пасля зімы наводзіць парадак еўрапейцы. Жыхары Ліпнік з радасцю працавалі ў той дзень не толькі на сваіх панадворках. У баку ад карыснай справы не застаўся ніхто. Людзі прывялі ў парадак свае двары вакол хат, пачысцілі ад смецця і вуліцу. Асаблівыя клопаты ляглі на плечы ўладальніка ўласнага трактара Міхаіла Собаля і іншых мужчын. З дазволу сельсавета яны спілавалі старыя аварыйныя дрэвы, распілавалі іх на чуркі і развезлі па дамах гатовыя дровы. Было вывезена і спалена за вёскай сабранае смецце. Ад пачуцця сумесна выканай добрай справы нават павесялелі вяскоўцы, якія паміж сабой сябруюць і дапамагаюць адзін аднаму, а летам ладзяць сапраўднае свята сваёй роднай вёскі. Зараз, калі ўсё навокал зазелянела, Ліпнікі сталі выглядаць яшчэ больш прыгажэйшымі і ўтульнымі для жыцця.



# Лічба нумара

**13%** - да такога ўзроўню ў Беларусі напрыканцы красавіка была павышана праўленнем Нацбанка стаўка рэфінансавання, што адразу заўважыла насельніцтва. Даўно такога не было ў нас, каб так імкліва пагаршалася сітуацыя ў краіне на фоне ўсплеску росту цэн і вастрэйшага валютнага дэфіцыта. Тэмпы інфляцыі проста зашкальваюць, да Дня касманаўтыкі 12 красавіка гадавы ніжні парог росту цэн перавысіў прагноз на 2011 год – 7,5 %. А ў беларускай сталіцы на асноўныя спажывецкія тавары цэны з пачатку года выраслі нават на 16 %, калі верхні парог росту цэн на гэты год быў вызначаны 8,5 %.

Дарэчы, за тры тыдні красавіка рост цэн у Беларусі склаў яшчэ 2,5 %, а гадавая інфляцыя да дня ўвядзення новай стаўкі рэфінансавання склала 8,8 % і перакрыла гадавую норму. Наступнай бядой стала немагчымасць для айчынных экспарцёраў тавараў цывілізавана разлічвацца за іх. На рынках і ў крамах цэны на большасць імпартных тавараў адразу павялічыліся ў сярэднім на 20-25 %, а то і вышэй. Але гэта толькі паўбяды, бо шэраг беларускіх банкаў адмовіўся ад пэўных відаў крэдытавання, па ранейшых узятых крэдытах працэнты вяртання такіх сум выраслі мінімум да 18 %, а максімум нават пад 30 % гадавых. Заложнікамі сітуацыі сталі практычна ўсе беларусы, таму што цяпер браць крэдыты пад гіганцкія працэнты жадаючых будзе мізэр.

Парадокс, але пры гэтым рост ВУП за год склаў рэкордныя 11 %, прамысловая вытворчасць вырасла яшчэ болей – на 12 %, а валюты беларусам не хапае. Аднак нічога неверагоднага тут няма. Проста кіраўніцтву краіны, а таксама ўсяму грамадству трэба ўсвядоміць, што Беларусь даўно жыла не па сродках, паколькі ў нашай дзяржавы некалькі апошніх гадоў запар захоўвалася адмоўнае сальда знешняга гандлю. Не ўмеем мы гандляваць, вырабляць якасныя, канкурэнтназдольныя тавары, а пры высокім росце вытворчасці шмат валюты трацілася на закуп сыравіны, камплектуючых.

Таму, каб стабілізаваць сітуацыю, спатрэбіцца шэраг непапулярных рашэнняў. Як ні горка, а адным з выйсцяў стане скарачэнне росту ВУП (менш прыйдзецца траціць валюты і лезці ў новыя даўгі). Аднак гэта патыхае ростам беспрацоўя, скрытае беспрацоўе ў маі ўжо назіраецца, бо прыпынілі сваю дзейнасць многія фірмы, звязаныя з імпартам

Адначасова ўрад пайшоў на істотнае скарачэнне дзяржаўных расходаў. Устаноўлены мараторый на прыняцце новых дзяржпраграм, узровень дэфіцыту дзяржбюджэта зменшаны да 1,5 % ВУП.

Таксама скарачэнне закране інвестыцыі, на трэць вырашана знізіць адпаведныя расходы дзяржаўнай праграмы. Будаўніцтва новых аб’ектаў увогуле вырашана поўнасцю спыніць. Яшчэ на 20 % намечана скараціць капітальныя расходы на закуп імпартнага абсталявання, будаўніцтва аб’ектаў бюджэтных арганізацый. У цэлым расходы бюджэтных арганізацый павінны знізіцца да ўзроўню 2010 года. Нарэшце знізіцца істотна падтрымка АПК, для вяскоўцаў у 2 разы (на 2,2 трлн. рублёў) скарацыцца закупкі тэхнікі. Будзе зніжана і праграма будаўніцтва жылля. Відавочна, гэта не што іншае, як пачатак эканамічнага крызісу.

Толькі ў гэтым выпадку можна будзе дабіцца стабілізацыі валютнага рынку Беларусі. Усе чакаюць нейкага выхаду з сітуацыі, хоць існуе вялікі адкладзены попыт на валюту, маральна беларусы рыхтуюцца да далейшага росту цэн і зніжэння сваёй пакупніцкай здольнасці. Напэўна, без чарговай дэвальвацыі беларускага рубля ўжо не абысціся, і гэта балюча ўдарыць па насельніцтву. Трывожна, што адной такой меры недастаткова і спецыялісты прадказваюць далейшае няпростае становішча, рэжым жорсткай эканоміі сродкаў.

Само жыццё прымушае пераходзіць і да структурных перамен у эканоміцы, да аслаблення адміністрацыйнага ціску на дзелавых людзей. Каб стабілізаваць сітуацыю, нам спатрэбяцца і дадатковыя знешнія крэдыты, якія можа і вернуць страчаную ўпэўненасць у лепшым заўтрашнім дні.

## Надвор’е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 05.05.11 | | | | пятн. 06.05.11 | | | | сб. 07.05.11 | | | | нядз. 08.05.11 | | | | пн.09.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +2 | +6 | +12 | +9 | +1 | +6 | +12 | +9 | 0 | +10 | +16 | +12 | +3 | +12 | +18 | +14 | +6 | +13 | +21 |
| Ціск, мм | 746 | 748 | 749 | 750 | 751 | 752 | 753 | 755 | 756 | 757 | 758 | 758 | 759 | 759 | 759 | 759 | 759 | 760 | 759 |
| Вільготнасць, % | 91 | 80 | 29 | 40 | 74 | 59 | 22 | 35 | 72 | 68 | 27 | 49 | 77 | 59 | 23 | 40 | 77 | 72 | 40 |
| Вецер м/сек | С-З 4 | С 3 | С-З 5 | З 4 | С-З 4 | С-З 6 | С-З 7 | З 4 | С-З 2 | З 3 | С 5 | С-З 1 | С-В 2 | С-В 3 | С-В 5 | С-В 2 | Ю-В 2 | В 2 | В 1 |
| | | 05:21 | 20:52 | | | 05:19 | 20:54 | | | 05:17 | 20:56 | | | 05:15 | 20:58 | | 05:13 | 21:00 | |
| | | 06:02 | 23:42 | | | 06:49 | - | | | 07:48 | 00:34 | | | 08:59 | 01:12 | | 10:16 | 01:42 | |

## Дзень за днём

**Сукупныя знешнія запазычанасці Беларусі перавысілі зараз 30 млрд. $, на пачатку 2007 года яны складалі каля 7 мільярдаў долараў. Нацбанку прыйшлося зняць абмежаванні для юрыдычных асоб на курс долара, айчынныя прадпрыемствы сталі купляць валюту па рынкаваму курсу рубля. З 1 мая выраслі ў краіне на 15-20 % цэны і на паліграфічныя паслугі, на друкаванне газет і часопісаў, значна падаражэлі ўсе імпартныя тавары. Шэраг беларускіх банкаў спынілі выдачу крэдытаў. Мінгарвыканкам прапанаваў павялічыць з 5 да 10 гадоў тэрмін пражывання ў сталіцы, каб стаць у чаргу на паляпшэнне жыллёвых умоў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Францыя.** Французскі лідар М. Сарказі сумесна з калегамі з Англіі і ЗША заявілі, што ваенная аперацыя ў Лівіі прадоўжыцца да таго часу, пакуль не ўберуць М. Каддафі.

**Расія.** Як заявіў міністр фінансаў РФ А. Кудрын, Расія сумесна з МВФ акажа дапамогу Беларусі, каля яе ўрад стане гатовы прадоўжыць непапулярныя і жорсткія рэформы.

**Бельгія.** Еўрасаюз падтрымаў законныя дзеянні ўлад Францыі аб спыненні цягнікоў з Італіі для праверкі дакументаў пасажыраў, каб сярод іх не было нелегалаў з Туніса і Лівіі.

**Куба.** Камуністычныя ўлады краіны рашыліся на рэформы, дазволілі набыццё і продаж нерухомасці і абмежавалі тэрмін знаходжання на кіруючых пасадах 10-цю гадамі.

**Сірыя.** Пад ціскам абуранага народа ўлады адмянілі рэжым надзвычайнага становішча, які дзейнічаў тут амаль 50 гадоў, закрылі суд дзяржаўнай бяспекі, караўшы палітвязняў.

**Швецыя.** Глава МЗС краіны Карл Більдт перасцярог кіраўніцтва РБ ад выкарыстання выпадку тэракту ў метро Мінска для далейшага падаўлення яго палітычных апанентаў.

**Узбекістан.** Малодшая дачка прэзідэнта, пасол у Іспаніі Лола Карымава падала ў суд Парыжа на французскі сайт, які назваў яе бацьку "дыктатарам", працэс пачнецца 19 мая.

**Аргенціна.** Пажыццёвы тэрмін зняволення даў суд за рэпрэсіі і палітзабойствы апошняму дыктатару краіны, прэстарэламу генералу Р. Біньоне, які кіраваў ёй у 1982-83 гадах.

**ЗША.** Такой стыхіі тут не было 25 гадоў: магутнае тарнада і шторм забралі жыцці паўсотні чалавек, разбурылі дзясяткі гарадоў, у штаце Караліна сотні раненых.

**Украіна.** Кіраўнік Еўракамісіі Ж. Барозу заявіў у Кіеве, што Украіна не можа мець зону свабоднага гандлю з ЕС і адначасова інтэгравацца ў Мытны саюз з РФ, РБ і Казахстанам.

**Расія.** Урад Беларусі, заявіў глава буйнейшага ў РФ "Ашчадбанка" Герман Грэф, не зможа пазбегнуць дэвальвацыі сваёй нацыянальнай валюты, гэта дапаможа ягонай эканоміцы.

**Чэхія.** Першая з моманту запуску ў 1985 годзе аварыя адбылася на адным з рэактараў 4-га энергаблока АЭС у Дукаванах, але ўдалося персаналу пазбегнуць заражэння атмасферы.

**Іспанія.** Іспанская паліцыя адшукала дзве скрадзеныя яшчэ ў 1997 годзе падчас адной з міжнародных выстаў сусветна вядомыя карціны Эль Грэка і Франсіска Гойі.

**Балгарыя.** Балгарская фірма Sopharma пад брэндам Doctor Do набыла другую па ліку сёлета сетку з 14 беларускіх прыватных аптэк і даводзіла іх колькасць да 39 у Беларусі.

**Францыя.** Веснавая сесія ПАСЕ ў Страсбургу заклікала беларускія ўлады аб'явіць мараторый на пакаранне смерцю і адмяніць яе прымяненне заканадаўчым чынам.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер С. Румас аб'явіў аб скарачэнні на 30 % дзяржрасходаў, будаўніцтва жылля на 220 тыс. кв. метраў, істотныя скарачэнні расходаў чакаюць праграмы АПК.

**Слонім.** У райсельгастэхніцы па ліцэнзіі фінскай фірмы пачалі выпуск вельмі патрэбных для Беларусі камнеўборачных машын "KIVI-REKKA" коштам пад 200 млн. рублёў.

**Мінск.** Намеснік міністра адукацыі РБ К. Фарына паведаміў, што з новага навучальнага года ва ўсіх малодшых класах школ адмовяцца ад адзнак па музыцы, маляванню і працы.

**Гомель.** Абласны суд прыгаварыў да 18 гадоў турмы экс-участкового Рагачоўскага РАУС, капітана міліцыі, які летась п'яны застрэліў з пісталета дзяўчыну падчас свята Купалле.

**Лельчыцы.** Па віне 70-гадовай пенсіянеркі, якая паліла сухую траву, у вёсцы Убарцкая Рудня згарэлі адразу 4, праўда, нежылыя хаты, на такіх пажарах у РБ загінула 5 чалавек.

**Рагачоў.** На мясцовым МКК услед за Глыбокім пачалі фасаваць згушчонку ў новую сучасную еўрапейскую ўпакоўку ў форме цюбікаў вагой 300 грам з устойлівым дном.

**Ліда.** Старшыня райарганізацыі ТБМ Лявон Аноцка праз суд аднавіўся на працы на мэблевай фабрыцы, атрымаў кампенсацыю за маральны ўрон за незаконнае звальненне.

**Мінск.** Спробы Беларускай асацыяцыі ўрачоў дабіцца абавязковага страхавання іх прафесійнай адказнасці ўрад Беларусі праігнараваў, у РБ так застрахаваны ветурачы.

**Брэст.** Улады рэкамендавалі ўстановам грамадскага харчавання і рэстаранам часцей рыхтаваць стравы з айчыннай (карпавых відаў) рыбы, адрадзіць савецкія "рыбныя дні".

**Мінск.** У бліжэйшы час, як заявіў эканаміст даследчага цэнтра ІПМ Зміцер Крук, валюта ў абменніках не з'явіцца, хоць і прынялі меры па сбалансіроўцы валютных курсаў.

**Пухавічы.** З розных куткоў краіны атрымала значную матэрыяльную і маральную падтрымку звольненая з працы настаўніца гісторыі Талькаўскай СШ Наталья Ільініч.

**Гродна.** У мясцовай турме сустрэў свой 38 год нараджэння журналіст польскай "Газеты Выборчай" Андрэй Почабут, яго абвінавачваюць у паклёпе на кіраўніка Беларусі.

**Мінск.** Над старэйшай і цалкам беларускамоўнай газетай краіны "Наша ніва" ўзнікла пагроза закрыцця, ёй вынеслі 3-е па ліку папярэджанне на працягу апошняга года.

**Баранавічы.** Да ўдзелу ў чэмпіянаце РБ па футболе у 1-й лізе спачатку не дапусцілі ФК за яшчэ леташнія даўгі перад сваімі супрацоўнікамі, абураны тысячы прыхільнікаў каманды.

**Мінск.** На вуліцы Няміга пачалося будаўніцтва 5-зоркавага 39-павярховага гасцінічнага комплексу коштам 150 млн. $ з бізнэс-цэнтрам, верталётнай пляцоўкай на даху.

## У Беларусі дзейнічаюць новыя памеры мінімальных спажывецкіх бюджэтаў



■ Алена Прус, БЕЛТА

**У Беларусі з 1 траўня па 31 ліпеня бягучага года дзейнічаюць новыя памеры мінімальных спажывецкіх бюджэтаў для васьмі сацыяльна-дэмаграфічных груп насельніцтва. Пра гэта паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў аддзеле комплексных праблем развіцця сацыяльна-працоўнай сферы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны.**

Сярэднедушавы мінімальны спажывецкі бюджэт сям'і з чатырох чалавек з 1 траўня цяперашняга года складае Br 524 тыс. 770 у разліку на месяц. Новы МПБ сям'і з чатырох чалавек павялічыўся на 9,2%. Гэта абумоўлена ростам коштаў у першым квартале на прадукты харчавання, прамысловыя тавары, а таксама ростам тарыфаў на жыллёва-камунальныя, бытавыя, транспартныя паслугі, паслугі дашкольных устаноў і культуры, растлумачылі ў міністэрстве.

Нагадаем, сярэднедушавы МПБ сям'і з чатырох чалавек служыць асновай для вызначэння права грамадзян на атрыманне палёгкавых крэдытаў і субсідый на будаўніцтва (рэканструкцыю) ці набыццё жылых памяшканняў.

Асноўныя артыкулы выдаткаў сярэднедушавога мінімальнага спажывецкага бюджэту сям'і з чатырох чалавек у кошках сакавіка 2011 года наступныя: прадукты харчавання - 55,9%, адзенне, бялізна, абутак - 18,1%, аплата жылля і камунальныя паслугі - 9,5%, мэбля, прадметы культурна-бытавага і гаспадарчага прызначэння - 6,7%, бытавыя паслугі, транспарт, сувязь - 5,6%.

Зацверджаны таксама сярэднедушавыя мінімальныя спажывецкія бюджэты маладой сям'і з трох чалавек - Br549 тыс. 680, працаздольнага насельніцтва - Br671 тыс. 680, пенсіянераў - Br536 тыс. 160, студэнтаў - Br512 тыс. 320, дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў - Br413 тыс. 310, дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў - Br511 тыс. 950, дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў - Br586 тыс. 230.

Па словах навукоўцаў, у адпаведнасці з заканадаўствам, мінімальны спажывецкі бюджэт уяўляе сабой выдаткі на набыццё набору спажывецкіх тавараў і паслуг для задавальнення асноўных фізіялагічных і сацыяльна-культурных запатрабаванняў чалавека.

Мінімальны спажывецкі бюджэт ужываецца як сацыяльны нарматыў для прагназавання змен узроўню жыцця насельніцтва, фармаванне сістэмы народна-гаспадарчых прапорцый і прыярытэтаў, што забяспечваюць паэтапнае набліжэнне спажывання грамадзян да навукова абгрунтаванага ўзроўню.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Глыбокае.** На мясцовым МКК, буйнейшым у горадзе, распрацавалі праект рэканструкцыі раней недабудаванага пуставаўшага будынка цэха цэльнамалочнай прадукцыі.

**Сянно.** Падчас выпальвання сухой травы практычна згарэў дом на тэрыторыі раёна, на такім пажары апёкі рук і знішчаны хлеў атрымала і жыхарка абласнога цэнтра.

**Віцебск.** Газета "Камсамольская праўда" пабывала ў доме ўраджэнца горада, у кватэры затрыманага па справе тэракту ў метро, людзі назвалі яго непрыкметным, самім у сабе.

**Лепель.** Затрыманы па справе тэракту ў метро сталіцы Дзмітрый К. цікавіўся хіміяй і падчас службы ў дывізіёне в/ч пасёлка Межыца, там ён даслужыўся да старшага сержанта.

**Віцебск.** Падчас работ па ўмацаванню і добраўпарадкаванню берагоў ракі Заходняя Дзвіна рабочыя знайшлі адразу 19 мін часоў Вялікай Айчыннай вайны, якія знішчылі сапёры.

**Наваполацк.** Новым генеральным дырэктарам буйнейшага прадпрыемства горада ААТ "Нафтан" стаў Уладзімір Траццякоў, ААТ "Транснафта Дружба" стаў Васіль Дробатаў.

**Полацк.** Трагічна загінуў 18-гадовы малады гараджанін на 467 км перагону Ксты-Полацк, ён па неасцярожнасці трапіў днём пад колы дызельпоезда, які рухаўся з Пастаў.

**Дуброўна.** На тэрыторыі воінскіх могілак "Рыленкі" завяршылі рэканструкцыю абноўленай капліцы, яе адкрыццё пройдзе на Дзень Перамогі, у вайну тут было пекла.

**Талачын.** Ноччу на трасе пры выкананні службовых абавязкаў загінуў супрацоўнік ДАІ, на месцы ДТЗ яго збіў насмерць заснуўшы за рулём расіянін, ён таксама загінуў.

**Пастаны.** Па прадстаўленні райпракуратуры суд аштрафаваў жыхара райцэнтра і гарпасёлка Варапаева, якія збілі сваіх жонак, нягледзячы на тое, што яны даравалі мужам.

**Сянно.** Толькі адзін калгас раёна імя Гараўца атрымае сёлета дзяржаўную падтрымку, астатнія гаспадаркі ў 2010 годзе не справіліся з прагнозам росту валавай прадукцыі.

**Орша.** З надыходам цяпла ў цэнтры горада зноў адкрыўся Дзіцячы парк атракцыёнаў, аднак цэны на розныя каруселі павысіліся на 10-15 %, ніяк не закончаць 2-ю чаргу парка.

**Бешанковічы.** Эпіцэнтр сёлетняй паводкі найбольш разгуляўся па тэрыторыі раёна, тут было падтоплена шэраг дамоў, па вобласці пад вадой апынуліся 3 масты на аўтадарогах.

**Глыбокае.** У мясцовым касцёле св. Тройцы адразу 30 жанатых пар рознага ўзросту з удзелам біскупа Віцебскай дыяцэзіі Уладзіслава Бліна прынялі абрад вянчання ў храме.

**Віцебск.** У 44-гадовага жыхара горада, які вяртаўся з Польшчы на цягніку, мытнікі Брэста канфіскавалі 12 прадметаў антыкварy часоў вайны, сярод іх посуд з нацысцкай сімволікай.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**Субкультура, як піша Вікіпедыя, гэта частка культуры, якая адрозніваецца ад пануючай. Адрозненне гэтае можа выяўляцца ў паводзінах, адзенні, сістэме каштоўнасцяў. Асабліва ахвотна далучаецца да субкультураў моладзь, што часам выклікае насцярожанасць старэйшага пакалення.**

*Інтэрвію з Кацярынай Тумчонак*

# У Глыбокім ёсць прадстаўнікі некалькіх субкультураў

■ Кастусь Шыталь

Навучэнка глыбоцкай сярэдняй школы №2 Кацярына Тумчонак цікавіцца моладзевымі субкультурамі. Нядаўна яна падрыхтавала для школьнай канферэнцыі навуковую працу пра субкультуры, якія існуюць у Глыбокім. Карэспандэнт "Вольнага Глыбокага" пагутарыў з Кацярынай на гэтую тэму.

- Якія субкультуры існуюць у Глыбокім? Як моцна яны распаўсюджаныя?

- У Глыбокім ёсць прадстаўнікі некалькіх субкультураў: альтэрнатыўшчыкі, рэперы, металісты, эмо, готы. Найбольш альтэрнатыўшчыкаў і металістаў.

- Што адрознівае моладзь з субкультураў ад звычайнай моладзі?

- Кожная субкультура мае свой стыль паводзінаў, адзення, погляды на жыццё. Што датычыць Глыбокага, то тут пераважаюць музычныя субкультуры, якіх аб'ядноўваюцьпрыхільнасці ў музыцы. Металісты, рэперы, альтэрнатыўшчыкі праяўляюць сябе ў адзенні. Некаторыя рэперы ў Глыбокім ствараюць свае музычныя кампазіцыі, спрабуюць нават іх запісваць.

- Многія людзі ставяцца да субкультураў ці то з варожасцю, ці то з падазрэннем. Ці апраўданая такая падазронасць да гэтай моладзі?

- Субкультура – гэта такая ж група моладзі, як і ўсе астатнія. Яны маюць свае пачуцці і эмоцыі, яны таксама ў душы добрыя. На мой погляд, субкультуры патрэбныя – так моладзь выказвае сваю разнастайнасць.

- Мне, напрыклад, даводзілася чуць пра такі выпадак, як групоўка металістаў у Глыбокім дапамагла пажылой жанчыне скласці дровы…

- Я таксама ведаю шмат металістаў і не магу сказаць, што гэта "чэрствыя" людзі, ведаю шмат прыкладаў, калі яны дапамагалі людзям. Яны вельмі згуртаваныя між сабой людзі, больш згуртаваныя, чым звычайная моладзь.

- На тваю думку, субкультуры дапамагаюць моладзі прыстасавацца да дарослага жыцця, ці, наадварот, затрымліваюць малаых у дзяцінстве?

- Мне здаецца, што ні з першым, ні з другім нельга пагадзіцца. Кожны чалавек сам вырашае – ці ён будзе ўваходзіць у дарослае жыццё, ці будзе заставацца дзіцём. Гэта зусім не залежыць ад субкультураў.



**Даведка "ВГ":**

Альтэрнатыўшчыкі – прыхільнікі музычных накірункаў альтэрнатыўнага року або альтэрнатыўнага металу.

Готы – моладзевая субкультура. У вопратцы і касметыцы готаў пераважае чорны колер, адным з атрыбутаў з'яўляецца анх – старажытнаегіпецкі сімвал бессмяротнасці.

Металісты – субкультура прыхільнікаў музыкі ў стылі метал. Металісты імкнуцца да незалежнага і самастойнага ладу жыцця. Носяць чорную скураную вопратку з металічнай атрыбутыкай.

Рэперы – прыхільнікі музыкі ў стылі рэп – рыфмаванага рэчытатыву. Частка хіп-хоп культуры, якая ўключае ў сябе графіці, брэйк-данс, адмысловы стыль вопраткі.

Эмо – моладзевая субкультура, адметнасцю якой з'яўляецца пачуццёвае светаўспрыманне, схільнасць да рамантыкі. У вопратцы эмо пераважаюць чорны і ружовы колеры.

# Ушанаванне благаслаўлёнага Яна Паўла II у Мосары

■ Таццяна Ластоўская

У Рыме 1 мая 2011 года, у Нядзелю Божай Міласэрнасці, адбылася беатыфікацыя Слугі Божага Яна Паўла II, таму і ў в. Мосар Віцебскай дыяцэзіі вернікі праслаўлялі благаслаўлёнага Яна Паўла II. На працягу трох дзён 29 красавіка – 1 мая вернікі ўдзельнічалі ў сустрэчах, якія наблізілі Яго постаць і паглыбілі веды аб Яго Пантыфікаце. Кожны дзень, пасля Святой Імшы і набажэнства каля помніка Яну Паўлу II, мосарскія парафіяне мелі магчымасць паглядзець фільм "Караль – чалавек, які стаў Святым Айцом" італьянскага рэжысёра Джакомо Баццяно.

У нядзелю, 1 мая, падчас Урачыстай Літургіі падзякі за беатыфікацыю Вялікага Папы ў Мосары ў прамоўленай гаміліі ксёндз Аляксей, адміністратар парафіі, звярнуў увагу на выключную сувязь Яго Пантыфікату з Найсвяцейшай Паннай Марыяй. Асаблівым чынам, можа і не выпадкова ў першы дзень мая адбылося абвяшчэнне Яна Паўла II благаслаўлёным, бо гэты месяц – прысвечаны Багародзіцы Марыі.

"Дэвізам Пантыфікату Яна Паўла II былі абраныя словы – Totus Tuus – Увесь Твой. Цяжка знайсці словы, каб выразіць захапленне лучнасцю Яго жыцця з Божай Маці. Нават, калі паразважаць над супадзеннямі датаў і лічбаў, звязаных з Яго асобай, то цудоўным чынам бачны след аб'яўленняў Багародзіцы ў Фаціме.

Божая Маці аб'явілася Люцыі, Жасінце і Францішку шэсць разоў у Фаціме (Партугалія) з мая па кастрычнік 1917 года менавіта ў 13-ы дзень кожнага месяца. Лічба 13 – гэта лічба Марыі, звязаная з Фацімай.

Палічым жа суму лічбаў даты смерці Папы (02. 04. 2005): 2+4+2+5=13;

Гадзіна смерці (21: 37): 2+1+3+7=13;

Сума лічбаў даты смерці і гадзіны смерці дае лічбу Пантыфікату, г. зн. 26 (Два разы 13);

Памёр Святы Айцец у 13 тыдзень года ў 13 суботу месяца;

Пакушэнне на Папу адбылося як раз 13 мая, у дзень, а нават і ў гадзіну першага аб'яўлення ў Фаціме;

Ян Павел II меў 85 гадоў, менавіта 8+5=13;

Дата пахавання (08. 04. у 10:00): 8+4+1=13;

Апошняя публічная сустрэча адбылася 30. 03. 2005: 3+3+2+5=13;

Святы Айцец пражыў роўна 31000 дзён, а, калі пераварнуць лічбу, не лічачы нуля, то атрымліваем 13;

Нарадзіўся 18. 05. 1920: сума 1+8+5+1+9+2=26 (Два разы 13);

Пантыфікат трываў 26 гадоў і 5 месяцаў: 2+6+5=13, ці 9301 дзень: 9+3+1=13;

Выбраны Пантыфікам, калі меў 58 гадоў: 5+8=13;

Нават і сястра Люцыя памерла ў сімвалічную дату 13. 02. 2005, сума лічбаў якой складае 13;

А калі скласці лічбы даты абрання Папай (16. 10. 1978): 1+6+1+1+9+7+8=33, то атрымліваем гады жыцця Самаго Езуса Хрыста.

Гэта цуд Божай ласкі і дабрыні! Божы цуд у асобе благаслаўлёнага Яна Паўла II – нашага сучасніка, Вялікага чалавека ў гісторыі Касцёла і свету!

Божая Маці Марыя чувае над светам і выпрошвае Божую Міласэрнасць, заклікае нас да навяртання і малітвы на Ружанцы. Фацімскае Пасланне так актуальнае ў нашым жыцці і праз заступніцтва благаслаўлёнага Яна Паўла II, які даверыў жыццё Яе апецы, складаем падзяку Усемагутнаму і Найвышэйшаму Богу і нашай Нябеснай Маці – Марыі!" – зазначыў душпастыр.

Слугу Божага Папу Яна Паўла II ужо пры жыцці людзі лічылі святым – «Santo Subito». Ён вёў Хрыстовы Касцёл да Бога, а зараз ужо з неба пакіруе нашымі "крокамі" на шляху да Збаўлення!!! Дзякуем Пану Богу!



# Велікоднае архірэйскае богаслужэнне ў Глыбокім

■ Яўген Самсонаў

Традыцыйна штогод у Глыбоцкім саборы Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы праходзіць архірэйскае богаслужэнне.

Сёлета на трэці дзень Вялікадня сюды прыехала шмат вернікаў з усяго рэгіёну. Прысутнічала 28 святароў на чале з архіепіскапам Полацкім і Глыбоцкім Феадосіям. Падчас набажэнства звяртаючыся да прысутных, архіепіскап Феадосій казаў аб вялікім святе Пасхі, духоўна-маральным выхаванні дзяцей і дарослых. За асаблівую старанnасць у малітве ва ўрачысты дзень уладыка ўручыў 24 святарам Браслаўскага, Верхнядзвінскага, Мёрскага, Докшыцкага, Пастаўскага, Шаркоўшчынскага і Глыбоцкага благачыній Полацкай і Глыбоцкай епархіі царкоўныя ўзнагароды. Самыя каштоўныя падарункі, ад імя патрыярха Маскоўскага і Усяе Русі Кірыла, залатыя наперстныя крыжы – архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій уручыў тром святарам. Сярод іх – настаяцелю Кавальскай і Галубіцкай цэркваў айцу Дзмітрыю Аўсіевічу. Восем іерэяў, уключаючы настаяцеля кафедральнага сабора Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы айца Сергія Грамыку, былі ўзведзеныя ў сан протаіерэяў.



Вернікі сустракаюць архіепіскапа Полацкага і Глыбоцкага Феадосія.

Завяршылася ўрачыстасць шматлюдным Хрэсным ходам вакол храма.



У часе сустрэчы ўладыкі з кіраўніцтвам раёна абмяркоўваліся пытанні супрацоўніцтва ўлады і царквы, рэканструкцыі глыбоцкага сабора, святкаванне 100-годдзя адной з галоўных святынь храма – напісанай на Афоне мірацечнага абраза «Достойно есть», падрыхтоўкі да правядзення ў 2012 годзе Дня пісьменства, стварэнне на тэрыторыі епархіі дзіцячых праваслаўных лагераў.



Урачыстая сустрэча архіепіскапа Полацкага і Глыбоцкага Феадосія каля варот храма.



Асвячэнне.

Кс. Аляксей Юркайць, *адміністратар парафіі Мосар.*

# Слуга Божы Ян Павел II – Вялікі Пантыфік у нашай гісторыі

**Сумная вестка аб смерці Святога Айца Яна Паўла II абляцела ўвесь свет 2 красавіка 2005 года. Адыход вялікага чалавека Касцёла і сучаснасці з гэтага свету да Пана Бога быў нібы заканчэннем цэлай эпохі Пантыфіка, якая распачалася з заклика: “Не бойцеся!”**

Нарадзіўся ён, Караль Вайтыла, у горадзе Вадавіцы ў Польшчы 18 мая 1920 года у сям'і былога афіцэра аўстрыйскай арміі. Ён быў малодшым з двух дзяцей Караля Вайтылы-старэйшага і Эміліі Качароўскай, якая памерла, калі будучаму Папе было ўсяго дзевяць гадоў. Пазней, у 1941 годзе, памёр і яго бацька.

Пасля заканчэння гімназіі ў 1942 годзе ён паступіў у падпольную духоўную семінарыю і 1 лістапада 1946 года прыняў святарскае пасвячэнне з рук кракаўскага арцыбіскупа Адама Стэфана Сапегі. У 1946-48 гадах вучыўся ў Рыме на філасофскім факультэце Дамініканскага ўніверсітэта “Ангелікум”, а таксама ў каталіцкіх універсітэтах Фрыбурга (Швейцарыя) і Лувена (Бельгія).

Пасля вяртання ў Польшчу ў 1948 годзе выконваў функцыі вікарыя ў парафіі г. Кракава. У 1953 годзе абараніў ступень доктара маральнай тэалогіі і вёў лекцыі ў Кракаўскай духоўнай семінарыі. У 1957 годзе Караль стаў дацэнтам у Люблінскім каталіцкім універсітэце. 4 ліпеня 1958 года Святы Айцец Пій XII паклікаў Караля Вайтылу на пасаду дапаможнага біскупа Кракаўскай архідыяцэзіі і біскупскую сакру ён прыняў 28 верасня 1958 года. 13 студзеня 1964 года Святы Айцец Павел VI назначыў біскупа Караля арцыбіскупам і Мітрапалітам Кракава, а 26 чэрвеня 1967 года ўсклаў кардынальскую бірэтту. Па Божай волі 16 кастрычніка 1978 года кардынал Караль Вайтыла быў абраны Пантыфікам і прыняў імя Ян Павел II.



За гады свайго пантыфікату Ян Павел II увёў новы Кодэкс кананічнага права (1983). Абвясціў новы Катэхізіс каталіцкага Касцёла (1992), правёў 120 замежных падарожжаў, наведаў 129 краін. Таксама Ян Павел II беатыфікаваў 1343, кананізаваў 482 асобы. Прызначыў на пасады 321 епіскапа і 232 кардыналаў. Святы Айцец выдаў аж 14 Энцыклік і 15 Апостальскіх адартацый, 11 Апостальскіх канстытуцый і 45 Апостальскіх пасланняў, 30 дакументаў у форме «motu proprio», тысячы папскіх лістоў. Апублікаваў тры кнігі. Па працягласці свайго пантыфікату Ян Павел II саступае толькі Апосталу Пятру і Папе Пію IX (1846 – 1878).

У Рыме 1 мая 2011 года адбылася беатыфікацыя Слугі Божага Яна Паўла II. Увесь каталіцкі свет чакаў гэтай падзеі. Вялікая ўдзячнасць Пантыфіку ахоплівае сэрцы ўсіх каталікоў свету і вернікаў беларускіх парафій. Менавіта Святы Айцец Ян Павел II паспрыяў адраджэнню касцёльных структураў на Беларусі.

Пасля распаду СССР і стварэння Беларускай дзяржавы, дзякуючы Яну Паўлу II адбыліся змены ў жыцці Касцёла на Беларусі: 25 жніўня 1989 года Апостальская Сталіца імянавала ксяндза Тадэвуша Кандрусевіча Апостальскім адміністратарам Мінскай дыяцэзіі для каталікоў на Беларусі і восенню Святы Айцец Ян Павел II у Рыме кансэкраваў яго на біскупа.

Неўзабаве хутка, 13 красавіка 1991 года буллай Святога Айца Яна Паўла II “Iam pridem” была створана Мінска-Магілёўская архідыяцэзія і імянаваны Мітрапалітам ксёндз арцыбіскуп Казімір Свёнтак.

Святы Айцец Ян Павел II Апостальскай Канстытуцыяй “Ad aptius consulemendum” эрыгаваў новую Віцебскую дыяцэзію 13 кастрычніка 1999 года, і ўстанавіў першым яе Ардынарыем біскупа Уладзіслава Бліна, які прыкладае вялікія намаганні ў адраджэнні рэлігійнага жыцця парафій Віцебшчыны.

Ян Павел II памятаў пра Беларусь, нават у традыцыйных пасланнях «urbi et orbi» на Божае Нараджэнне і Пасху ён першы з Пантыфікаў прамовіў па беларуску, размаўляў на сустрэчах з пілігрымамі і біскупамі нашай краіны. Ён перажываў за наш Касцёл, маліўся за нас.

Нам усім шмат ёсць за што дзякаваць Богу і праслаўляць Яго веліч праз асобу Слугі Божага Яна Паўла II і вучыцца “гарэць” Божым Святлом і Любоў'ю, да якой мы і пакліканы. Няхай жа Ян Павел II дапамагае нам на дарозе да дасканаласці і святасці.

# Дапусціш крадзеж – атрымаеш штраф!

■ **В.Л. Белы,**
*старэйшы інспектар ліцэнзійна-кантрольнай групы арганізацыйна-кантрольнага аддзялення Глыбоцкага аддзела дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь, маёр міліцыі.*

Закон Рэспублікі Беларусь «Пра ахоўную дзейнасць у Рэспубліцы Беларусь» ад 08.11.2006 года, Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №450 ад 1 верасня 2010 года «Пра ліцэнзаванне асобных відаў дзейнасці», вызначылі парадак ажыццяўлення ахоўнай дзейнасці ў частцы правядзення работ па ахове прыналежных аб'ектаў (маёмасці) на прадпрыемствах, установах, арганізацыях і ўсклалі на Дэпартамент аховы МУС Рэспублікі Беларусь абавязкі па кантролі за паўнатой выканання юрыдычнымі асобамі ліцэнзійных патрабаванняў і ўмоў.

Пры правядзенні праверак ажыццяўлення ахоўнай дзейнасці ліцэнзійна-кантрольнай групай Глыбоцкага аддзела аховы быў выяўлены шэраг недахопаў у рабоце па захаванасці аб'ектаў (маёмасці), забеспячэнню тэхнічнай умацаванасці памяшканняў, будынкаў, заборнай агароджы, дзе захоўваюцца матэрыяльныя каштоўнасці, абсталяванасці сродкамі абвяшчэння пра пранікненне староннiх асобаў на аб'ект, які ахоўваецца, ажыццяўленню праверак свайго ахоўнага саставу кіраўніцтвам прадпрыемстваў і арганізацый у вячэрне-начны час, арганізацыі падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі сваіх вартаўнікоў, бо прафесія вартаўніка звязана з падвышанай рызыкай. У шэрагу выпадкаў кіраўнікі скарачаюць колькасць работнікаў аховы, што супярэчыць патрабаванням па ахове працы. Такім чынам, з-за нядбалага падыходу да забеспячэння захаванасці дзяржаўнай маёмасці, узнікаюць крадзяжы, п'янства на працоўных месцах і шэраг іншых недапушчальных з'яў.

Невыкананне вышэйпаказаных умоў і патрабаванняў ахоўнай дзейнасці і неажыццяўленне належнага прапускнога рэжыму на прадпрыемствах і ў арганізацыях прывяло да крадзяжоў у 2010 годзе на аб'ектах дзяржаўнай уласнасці, у студзені з аддзялення «Зарубіна» ААТ «Канстанцінаў двор» з мехмайстэрняў здзейснены крадзеж 4 акумулятарных батарэй на суму 2.6 млн.рублёў. Галоўным чынам крадзяжам спрыяюць наступныя негатыўныя фактары: неажыццяўленне належнага прапускнога рэжыму, дрэнная тэхнічная ўмацаванасць аб'ектаў, пабітыя аконныя праёмы, трухлявая агароджа з лазамі і праломамі, парой адсутнічаюць нават уязныя вароты ці ў крайнім выпадку нацягнуты ланцуг, парушэнні працоўнага заканадаўства (ахоўвае адзін вартаўнік) і не належнае выкананне сваіх службовых абавязкаў кіраўніцтвам па кантролі за сваімі работнікамі, якое спараджае п'янства, сон, адсутнасць на працоўным месцы вартаўнікоў і крадзяжы дзяржаўнай маёмасці.

**Сакавік:** ГП «Азерцы», невядомы пракраўся ў склад прадпрыемства і скраў 400 кг. фуражнай пшаніцы; філіял Стрынадкі Падсвільскага вінзавода - неўсталяваная асоба выкрала са склада 4 электрарухавікі.

**Красавік:** ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка», мехмайстэрні в. Запруддзе, з тэрыторыі выкрадзены дзве акумулятарныя батарэі; Глыбоцкая ПМК-48, з такарнага цэха па вул. Чырвонаармейская, д.78а г. Глыбокае здзейснены крадзеж 2 электрарухавікоў і адыходаў такарнай вытворчасці.

**Травень:** ААТ «За Радзіму». з мехмайстэрняў в. Шуневічы невядомы выкраў 7 стоек зубоў культыватара КЧ5.1.

**Ліпень:** ААТ «Залатая падкова», неўсталяваная асоба выкрала 8 рулонаў сена з поля в. Пятроўскія вагой каля 4.5 тоны.

**Жнівень:** жывёлагадоўчы комплекс «Мярэцкія», ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка», выкрадзены чыгунныя краты; ААТ «За Радзіму», з незачыненага гаража на тэрыторыі мехмайстэрняў з аўтамашыны «Ніва» выкрадзена аўтамагнітола.

**Верасень:** магазін №24 у в. Запруддзе філіяла «Кааппторг» Глыбоцкага РАЙПГХ, неўсталяваная асоба здзейсніла пранікненне і выкрала ТМЦ на суму 2.8 млн.руб.

**Студзень 2011 года:** з цялятніка фермы в. «Навінкі» ААТ «Чарневічы» здзейснены крадзеж 4 цяляці, урон склаў 1.8 млн. руб.

**Люты 2011 года:** з вытворчага цэха перамоткі электраабсталявання ААТ «Глыбоцкі аграсэрвіс», размешчанага па адрасе: г.Глыбокае, вул. Дзяржынскага, д.19 выкрадзена 12 электрарухавікоў, урон склаў 4,7 млн рублёў.

Асаблівa вострa стаіць задача захаванасці сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі пасяўнога фонду, ГЗМ, камбікармоў, ядахімікатаў і мінеральных угнаенняў, сельскагаспадарчай тэхнікі, каб правесці без страт пасяўную кампанію 2011 года з-за рознага роду крадзяжоў. Зыходзячы з вышэйпададзенага, хацелася б нагадаць кіраўнікам аграпрамысловага комплексу, арганізацый і прадпрыемстваў пра тэхнічную ўмацаванасць памяшканняў, складоў, дзе захоўваюцца дарагія ядахімікаты, ТМЦ, мінеральныя ўгнаенні і пасяўны фонд, ГЗМ, агрэгаты і тэхніка, а таксама пра здачу бланкаў ліцэнзій у ліцэнзавальны орган СВК якія пераназваны ў ААТ. У выпадку здзяйснення крадзяжу на аб'екце ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №510 ад 16.10.2009 года «Пра парадак арганізацыі і правядзення праверак» прызначаецца пазапланавая праверка і выдаецца прадпісанне па заяве юрыдычнай асобы пра крадзеж. Па выніках праверкі ўстанаўліваюцца прычыны, якія прывялі да крадзяжу, а на падставе выяўленых недахопаў у адпаведнасці з артыкулам 23.57 КоАП Рэспублікі Беларусь складаецца пратакол на фізічную ці юрыдычную асобу, якi цягне накладанне штрафу ў памеры ад 10 да 100 базавых велічынь з канфіскацыяй прадметаў і спецыяльных сродкаў ахоўнай дзейнасці ці без канфіскацыі. Пратаколы разглядаюцца Гаспадарчым судом Віцебскай вобласці.

*21.04.2011 г.*

# Пройгрыш варты перамогі

■ **Яўген Самсонаў**

**З 27 па 29 красавіка ў спартыўнай зале Глыбоцкага дзяржпрафліцэя адбылося першынство Глыбоцкага раёна па валейболу сярод жанчын у праграме круглагадзічнай спартакіяды раёна сярод працоўных калектываў. У ім удзельнічалі пяць каманд: Ліцэй, УП ЖКГ, МКК, РВК, РЦБ.**



**Каманда УП ЖКГ.**

Першымі выйшлі на пляцоўку прыгажуні-спартсменкі УП ЖКГ і выхаванкі дзяжпрафліцэя. Перамога 2:1 натхніла камунальнікаў на далейшую барацьбу.

Пройгрыш каманды “УП ЖКГ” суперніцам – спартсменкам Глыбоцкай РЦБ у адной з партый з лікам 12:15 – варты перамогі. Перамогі над сабой, упэўненасці ў сваіх магчымасцях.

Было б вялікай сенсацыяй перамога над камандай “РВК”, бо ў склад райвыканкамаўскай каманды ўваходзіла пару лепшых валейбалістак колішняй зборнай раёна, на чале са знакамітым трэнерам Вольгай Семяндзяк.

Што маюць на ўзбраенні аматаркі скуранога мяча камунальнікаў? Мячык, разуменне гульні са школьных часоў, жаданне займацца валейболам – калі выпадала, пару месяцаў трэніровак пасля працы ў спартыўнай зале дзяржпрафліцэя напярэдадні чэмпіяната – за што ім вялікі дзякуй!

За плячыма ж лідараў – каманды валейбалістак-медыкаў – шматгадовы досвед зладжанай гульні. І гэты год стаў не выключэннем – яны абсалютныя пераможцы. Другое месца – РВК, а трэцім прызёрам стала каманда “МКК”. 4-ыя і 5-ыя месцы занялі адпаведна каманды “УП ЖКГ” і “Ліцэя”. І гэта, заўважце, не перадапошняе і апошняе месца, а як бы – Вышэйшая Ліга Глыбоцкага жаночага валейбола, бо ўдзел у круглагадзічнай працоўнай спартакіядзе Глыбоцкага раёна бяруць каля трох дзясяткаў прадпрыемстваў і арганізацый раёна.

# Віншаванкі

*Наталлю Сядову*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Желаем счастья много-много,
Улыбок радостных букет,
Друзей хороших и весёлых,
Везенья в жизни, долгих лет!
Желаем, чтоб ушли печали,
Чтоб близкие не огорчали,
Чтоб были вёсны средь зимы и лета,
Чтоб было много-много света!
Чтобы преградам всем назло
Жилось, любилось и везло!
Чтоб всё заветное могло свершиться,
Ведь ради этого и стоило родиться!



*Калектыў “ВГ”*

*Наталлю Сядову*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Ты сегодня на год повзрослела.
К зеркалу тревожно не спеши.
Ты за этот год похорошела-
Веселись и смейся от души.
Позабудь обиды и тревоги,
Улыбнись волшебно и светло.
В дождь и стужу, в зной и непогоду
Мы желаем, чтоб тебе везло.
Будь счастливой, ласковой и нежной
Впереди удачи два крыла.
Будь такой, чтоб жизнь тебя любила,
Чтоб не зря на свете прожила.



*Мама, тата, сястра, пляменніца Настасся.*

# П'яны мінчанін-браканьер пратараніў аўтазапраўку ў Лепельскім раёне

Каля вёскі Рудня п'яны жыхар Мінска на сваім аўтамабілі ўрэзаўся ў аўтазаправачную станцыю. Як паведамляе БЕЛТА, каб сысці ад адказнасці, ён спрабаваў даць супрацоўніку ДАІ хабар.

Інспектар на хабар не паквапіўся, а вось у багажнік машыны вінаватага ў ДТЗ зазірнуў, і выявіў там тушу кабана. За замах на дачу хабару, кіраванне аўтамабіля ў нецвярозым стане і незаконнае паляванне ў стаўленні жыхара Мінска ўзбудзілі адразу тры крымінальныя справы. Акрамя таго, высветлілася, што мінчанін наогул не меў права садзіцца за руль аўтамабіля: у канцы мінулага года яго ўжо прыцягвалі да адказнасці за кіраванне аўтамабілем ў нецвярозым стане і пазбавілі права кіравання аўтамабілем на тры гады.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

9 – 15 траўня 2011 г.













Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 р.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 9 траўня



**07.10** Праздничный концерт,посвященный Дню Победы.
**07.45** СловоМитрополита Филарета на 9 Мая и день святого Георгия Победоносца.
**07.55** «Доброе утро, Беларусь!».
**09.00,15.00,18.00** Новости.
**09.10** «Оружие».
**09.25** **"Дочь командира"**.
**10.35** «Парад Победы 1945 года».
**10.55** Торжественное шествиеветеранов
**12.20** «Наша память, наши песни, наше кино».Киноконцерт.
**13.25** **«Белорусский вокзал»**.Киноповесть
**15.20** **«Они сражались за Родину»**.
**17.55** Минута молчания. Светлой памяти павших в борьбе против фашизма.
**18.20** **«Звезда»**.
**19.50** «КЕНО».
**20.00** «Панорама».
**21.10** Хоккей.Чемпионат мира. Матч второго раунда. Прямая трансляция.
**23.30** **«Судьба человека»**. Драма
**01.05** День спорта.



**07.00** «Наше утро».
**08.00, 09.00** Наши новости.
**09.05** **"Двадцать дней без войны"**.
**10.55** Торжественноешествие ветеранов
**12.20** «Правнукивойны».
**13.10** Тележурнал«Союз».
**13.35** Фильм **«Время собирать камни»**.
**15.15** «Города-герои. Сталинград».
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** «Обратныйотсчет». «Они сражались за Францию».
**16.35** **«ЧаклуниРумба»**.
**17.55** Светлой памяти павших в борьбе против фашизма. Минута молчания.
**18.00** Наши новости.
**18.15** «Песни Весны и Победы».
**19.00** Легендарное кино в цвете. **«В бой идут одни старики»**.
**20.30** Наши новости.
**21.00** **«Брестская крепость»**.
**23.10-01.20** Фильм **«Агитбригада «Бей врага!»**.



**07.05** **«Зимородок»**.
**08.25** Праздничный концерт
**09.25** Навіны надвор'я.
**09.50** Пра мастацтва.
**10.20** Премьера.«Георгий Жуков. Война и мирМаршалаПобеды». Док. фильм
**10.55** Торжественное шествие ветеранов
**12.20** «Воспоминания после войны». Концерт.
**13.00** **«Освобождение»**
**15.35** Гала-концерт телевизионного фестиваля армейской песни «Звезда».
**17.10** Хоккей. Чемпионат мира. Матч второго раунда . Прямая трансляция.
**17.55** Минута молчания . Светлой памяти павших в борьбе против фашизма.
**18.00** Хоккей. Чемпионат мира.Продолжение.
**19.30** «Душевные боеприпасы».
**20.00** **«Часы остановились в полночь»**
**21.40** **«Обреченные на войну»**
**23.10** Футбол.Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**00.00** **«Враги»**



**06.00** **«ДЕВОЧКА ИЩЕТ ОТЦА»**.
**07.30** «24 часа».
**07.40** Телемарафон «Наша Победа!».
**07.55** «Большой завтрак».
**08.30** «Дожить до Победы!».
**09.20** Телемарафон «Наша Победа!».
**09.35** «Кино»: **«В ИЮНЕ 41-ГО»**. 1-я серия.
**10.30** «24 часа».
**10.40** Телемарафон «Наша Победа!».
**10.55** Торжественное шествие ветеранов
**12.20** Телемарафон «Наша Победа!».
**12.30** «Кино»: **«В ИЮНЕ 41-ГО»**. 2-я серия.
**13.30** «24 часа».
**13.50** Телемарафон «Наша Победа!».
**14.10** «Кино»: **«В ИЮНЕ 41-ГО»**. Беларусь -Россия, 2008 г. 3-я серия.
**15.10** Телемарафон «Наша Победа!».
**15.30** «Кино»: **«В ИЮНЕ 41-ГО»**. Беларусь -Россия, 2008 г. Заключительная серия.
**16.30** «24 часа».
**16.50** Телемарафон «Наша Победа!».
**17.10** «Наше кино»: **«СНАЙПЕР: ОРУЖИЕ ВОЗМЕЗДИЯ»**. Россия - Беларусь, 2009 г. Начало.
**17.55** Минута молчания. Светлой памяти павших в борьбе против фашизма.
**18.00** «Наше кино»: **«СНАЙПЕР: ОРУЖИЕ ВОЗМЕЗДИЯ»**.Россия - Беларусь, 2009 г. Окончание.
**19.10** Телемарафон «Наша Победа!».
**19.30** «24 часа».
**20.15** Телемарафон «Наша Победа!».
**20.30** «Праздничный концерт, посвященный Дню Победы».
**22.30** «24 часа».
**23.05** Телемарафон «Наша Победа!».
**23.20** «Столичный футбол».
**23.50** концерт «Песни Победы».



БЕЛСАТ tv BELSAT

**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:30** **"Тата"**
**9:20** «CIA: таемныя войны (1947–1977)»
**10:15** ПраСвет
**10:40** Басанож па свеце
**11:05** Моўнік
**11:15** «Старадаўнія інструменты Беларусі. Лютня», дак. фільм, рэж. Зміцер Сасноўскі, 2007 г., Беларусь
**11:30** Эксперт
**12:00** Аб'ектыў
**12:05** **"Тата"**
**13:55** «CIA: таемныя войны (1947–1977)»
**14:40** ПраСвет
**15:15** Басанож па свеце
**15:40** Моўнік
**15:50** «Старадаўнія інструменты Беларусі», дак. фільм, рэж. Зміцер Сасноўскі, 2007 г., Беларусь
**16:20** Гісторыя пад знакам Пагоні
**16:30** Эксперт
**17:00** Аб'ектыў
**17:05** **"Эміль з Лёнэбэр'і»**: 6 серыя
**17:35** **"Час гонару»**: 28 серыя
**18:25** Прэс-экспрэс
**18:40** Невядомая Беларусь: «Гульня ў вайнушку»
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Гарачы каментар
**19:45** Калыханка для самых маленькіх
**19:50** Еўропа сёння
**20:20** Гісторыя пад знакам Пагоні
**20:30** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Бывай, Ленін»
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прыватная калекцыя
**21:55** **"Найгалоўнейшы бос»**
**23:30** Аб'ектыў
**23:50** Гарачы каментар

